# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 28 (1626) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 12 ЛІПЕНЯ 1987 г. ЦАНА 12 зл.

## ФЭСТ У МАЛІННІКАХ

Сёлета народныя фэсты БГКТ адбываюцца пад знакам святкавання 70-ай гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. 14 чэрвеня ў Малінніках, на фэсце, які арганізаваў Арлянскі аддзел БГКТ, з дакладам аб сусветным значэнні гістарычных падзей у Расіі ў 1917 годзе выступіў сакратар ГП БГКТ Віталій Луба. З вялікай увагай быў ён выслуханы прысутнымі.

Пасля даклада была мастацкая частка. Першымі выступілі малінніцкія школьнікі. Распачала канцэрт песняй „Цячэ вада ў ярок" Яланта Загон, пасля спявала Кася Залеўская і Іаанна Бурак і іншыя. Добра іграў таксама школьны аркестр: на арганах — Веслаў Залеўскі, на перкусіі — Славамір Лукашук, а на гітары — Міраслаў Пракапюк, які таксама выступіў як саліст-спявак.

На змену школьнікам прыйшоў харавы калектыў Беластоцкага гарадскога аддзела БГКТ „Каласкі" пад мастацкім кіраўніцтвам Сцяпана Копы, які якраз паходзіць з Маліннікаў.

(Працяг на стар. 7)



Спяваюць „Каласкі".

## АДГАЛОСКІ

### ПРОЦІКУРЭЦКІ ФАНАТЫЗМ

Пра курцоў не збіраўся я пісаць у „Ніву", лічачы, што не варта пісаць пра тое, пра што ўсе ведаюць. Ніхто ж не ўпіраецца, што папяросы не шкодзяць здароўю. Заінтрыгавала мяне, аднак, тое, што пра курцоў распісаліся якраз тыя, хто ніколі не курыў. Свае высновы выводзяць яны са слоў іншых людзей, а каб было больш навукова, дык яшчэ і зіркаюць вэ ўсякія энцыклапедыі, пералічваюць хімічны склад нікаціну. Ды ў гэтай хіміі мала хто з чытачоў разбіраецца... Напэўна вядома кожнаму толькі адно: папяросы, несумненна, шкодныя. Як і гарэлка, варта дадаць. А калі пры гарэлцы, дык яе шкоднасць непараўнальная з папяросамі...

Некалі, мабыць, прычакаем тае пары, калі пачнуць вырабляць папяросы не такія шкодныя, як цяпер, бо яны ў нас прымітыўныя: нешта накшталт самагоннай гарэлкі, самагонкі, зусім атрутнай. Ну, шкодзяць папяросы. Хто ж кажа, што не шкодзяць? Але кураць іх, курылі і будуць курыць. Так, як пілі, п'юць і будуць піць, а ўся справа ў меры, у памяркоўнасці. Курылі і кураць правадыры народаў, палітыкі, акцёры, лекары, пісьменнікі і міністры, у іх ліку і міністры аховы здароўя, пра якіх таксама можна сказаць, што не хапае ім моцнае волі, пастановы. Ёсць старыя, якія ўсё жыццё курылі не нейкія папяросікі слабыя, але... самасад, махорку! І жывуць, і дажываюць амаль сотні гадоў.

Курэнне здароўя не мацуе, гэта так. Але, як бачым, не ўсім яно і так страшэнна шкодзіць. Напэўна шкоднае яно для тых, хто курыць папяросу за папяросаю, па сорак і шэсцьдзесят штук у суткі, і ўначы яны ўстаюць, каб пакурыць. Аднак, і сярод такіх бываюць людцы з „конскім здароўем" і аніякая хвароба іх не пакоціць. Мая бабуля курыла люльку, піла моцны, ажно чорны, чай і пражыла дакладна сто два гады. Чую, чыйсьці дзед курыў такую махорыцу, што ад яе дыму мухі на ляту падалі і здыхалі, і нічога з ім не здарылася, дажыў такой старасці, пра якую сёння ў газетах пішуць як пра сенсацыю.

Я сам куру ўжо сорак пяць гадоў, напіваюся чаю і кавы, і ніколі лекары не сказалі мне, каб я не курыў і не піў гэткае

(Працяг на стар. 3)

## ЖАДАЮ ЖЫЦЦЯ Ў МІРЫ І ДРУЖБЕ

### РАЗМОВА З АКАДЭМІКАМ МІКАЛАЕМ БІРЫЛАМ З АКАДЭМІІ НАВУК БССР

Было нам прыемна бачыць і чуць, што сярод студэнтаў, ды і не толькі сярод іх, выступае значнае зацікаўленне Савецкім Саюзам і што нашы інфармацыі аб ім успрымаюцца з увагай і сімпатыяй.

Маё прабыванне ў Польшчы важнае для мяне яшчэ і з тае прычыны, што мне разам з праф. А. Абрэмбскай-Яблонскай давялося быць рэдактарам польска-беларускага слоўніка, які да сёння добра служыць усім тым, хто цікавіцца беларускай мовай у Польшчы і польскай у Беларусі.

**Пытанне:** Трыццаць адзін год таму назад Вы былі запрошаны як выкладчык беларускай мовы на Кафедру беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Як сёння з перспектывы больш трыццаці гадоў ацэньваеце гэты факт?

**Адказ:** Цяжка паверыць, што ад моманту нашага першага прыезду ў Польшчу прайшло ўжо болей 30 гадоў. Хачу падкрэсліць, што двухгадовае знаходжанне маё ў Варшаўскім універсітэце мела вялікі ўплыў на мае навуковыя інтарэсы. Справа ў тым, што як у мінулым, так і сёння польскія вучоныя мелі і маюць вялікія дасягненні ў галіне анамастыкі. Гэты высокі ўзровень польскай анамастыкі быў для мяне творчым, інспіратарскім фактарам, які ўплываў на мае навуковыя пошукі.

Вяртаючыся да пачатку Кафедры беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце, магу сказаць, што ў арганізацыі гэтай дыдактычна-навуковай установы вялікія заслугі палажыла праф. А. Абрэмбская-Яблонская, якая мела непасрэднае дачыненне да запрашэння мяне і гісторыка літаратуры Васіля Тарасава ў Варшаўскі універсітэт. Хачу сказаць і тое, што студэнты, з якімі нам давялося мець дачыненне, былі добра падрыхтаваны і праяўлялі многа добрай волі і энергіі ў дыдактычным працэсе.

Зразумела, што першыя тыдні не былі для нас лёгкія. Многае з польскай тагачаснай рэчаіснасці было незразумелае і дзіўнае. Параўнаўча хутка, аднак, прыжыліся мы і наблізіліся да гэтай рэчаіснасці, не адступаючы, зразумела, ад сваіх поглядаў і прынцыпаў.

**Пытанне:** Наколькі мне вядома, апрача Варшавы Вы 30 гадоў таму назад часта бывалі і ў Беластоку. Якія ўспаміны асталіся ў Вас ад гэтых візітаў?

**Адказ:** Былі гэта для мяне візіты вельмі важныя. Справа ў тым, што я ведаў аб існаванні беларускай нацыянальнай меншасці ў Народнай Польшчы, але ніколі не меў з ёю кантактаў. Нашы частыя выезды ў Беласток якраз спрыялі такім кантактам. Справа ў тым, што ў Беластоку мы выкладалі беларускую мову і беларускую літаратуру на беларускай секцыі Настаўніцкай студыі. І гэта давала нам магчымасць азнаёміцца са справай беларускай асветы ва ўсходняй Беласточчыне.

Апрача гэтага, мы не раз сустракаліся з дзеячамі Беларускага грамадска-культурнага таварыства, з супрацоўнікамі „Нівы" і з членамі літаратурнай групы, якая тады існавала пры „Ніве". Зразумела, што як у Беларускім таварыстве, так і ў „Ніве" ды і ў дзейнасці пачынаючых літаратараў адлюстроўваліся розныя

(Працяг на стар. 2)

# УЛАДЫКА-БЕЛАРУС З КРАСНАГА СЯЛА

У Кленікі заехаў я на Узнясенне. Праехаў праз усю гэтую вялікую вёску, такую чыстую, акуратную (думаю, што не толькі ў святочны дзень). Усюды поўна народу, а найбольш каля царквы. Вельмі беларуская мясцовасць. І зямля добрая, ураджайная. На жаль, як і ўсюды ў нас, гаспадароў штораз менш, а рэнтыстаў штораз больш. Кленікі маюць двух солтысаў, адзін не даў бы рады. Але, відаць, недалёкі той час, калі і аднаго даволі будзе. Ворнае зямлі ўжо ўсяго каля двухсот гектараў, каля дваццаці гектараў лесу і няцэлых восемдзесят — лугоў.

Пажарнікі някепска арганізаваліся, усіх іх трыццаць адзін чалавек, маюць сваю пажарную машыну „Стар-200“.

Шкада, што гурток Беларускага таварыства ў Кленіках існуе толькі на паперы. Чаму так? Кленіцкія людзі надта любяць усё беларускае, памятаюць, калі хто ў іхняй мясцовасці быў — калі хор які-сьці, калі беларускі пісьменнік. Яны чытаюць у „Ніве“ пра бельскі калектыў „Васілёчкі“ і хацелі б убачыць ды паслухаць яго ў сябе. Хочуць вітаць і пісьменнікаў — Алеся Барскага (быў некалі ў іх), Сакрата Яновіча, Надзю Артымовіч. Гэта ўсё яшчэ рэдкая ў вясковых людзей цяга да роднай культуры, да кніжкі на беларускай мове.

Ёсць і тыповыя прэтэнзіі: махлююць з класіфікацыяй малака! А ў Кленіках даюць яго пакуль нямала, адзін Мікалай Кобец — сто семдзесят літраў у дзень, а Уладзімір Тапалянскі нават дзвесце пяцьдзесят. Трэба зацікавіць кантрольныя ўлады тым, ці праўда гэта, што „надуваюць“ кленіцкіх гаспадароў на кленіцкім малочным пункце...

У мясцовай бібліятэцы больш васьмі тысяч кніжак, але беларускіх усяго дзвесце пятнаццаць (дакладна падлічылі). Да смешнага мала. І злосць, і плач ад таго, што ўсяго няцэлыя тры працэнты кніжак на беларускай мове ў такой культурнай вёсцы!

Не веру я ў смерць Кленікаў. Вялікія яны і заможныя, і не павінна ўцякаць адсюль у Беласток моладзь. Тут праводзяць водаправод, за вялікія сумы грошай, і басейн будзе для пойкі кароў, бо гадоўля буйная. Будзе тут басейн і для купання, каб людзі маглі адпачыць ля вады.


Пропаведзь уладыкі ўсе слухалі з увагай.

Калі пачуў я званы на крэсны ход вакол царквы, пайшоў пабачыць госця з Савецкага Саюза, уладыку Афанасія. Ён прыбыў сюды аж з горада Перм каля Урала. А сам ён родам з Беласточчыны, з Краснага Сяла. Беларус ён. Народу сабралася мноства многае, тлум неагляднЫ! Слухалі надзвычайнай пропаведзі ўладыкі. Сказаў крыху і пра сябе, пра свой лёс. У вайну ўсё прапала і згарэла ў яго бацькоў. Пераехалі ў Слонім. Там, калі стаў дарослым, паступіў у вядомы Жыровіцкі манастыр, што ў дзесяці кіламетрах ад Слоніма. Затым закончыў Маскоўскую духоўную семінарыю. За добрую навуку прынялі яго ў Духоўную акадэмію. Перад тым я як стаў манахам, называўся Аляксандр Кудзюк. Наведаў свае родныя мясціны, успомніў былое.

Пасля народ пачаў разыходзіцца, свята канчалася, і я пайшоў да сваіх знаёмых у Кленіках. Наведаў пастаянную чытачку „Нівы“ Ніну Кацючук, якая выпісвае наш часопіс ад самага пачатку. Нумары „Нівы“ захоўвае яна ў каробках, бадай у пяці ўжо, бо столькі назбіралася за гэтыя гады.

Пачуў я мясцовую легенду. У маёнтку каля Кленік, у такой хатцы пад лесам, жыла калісь чарадзейка з сынам. Паблізу працякала рэчка, бралася яна з вялікага балота ў бок Гукавіч. Рэчка была глыбокая і рыбная. Дзеці купаліся ў ёй і дарослыя. Сын чарадзейкі таксама плаваў у рэчцы, добра ўмеў ён плаваць. У адзін дзень, калі бура ішла з грымотамі, ён захацеў паказаць сябрам свой спрыт. І так нырнуў ён у рэчку тую, што больш і не выплыў. Чарадзейка страшна плакала па сыне і кляла рэчку. Яна і пракляла яе, рэчка пачала высыхаць і высахла. На яе месцы луг зрабіўся, і сёння называюць яго Чарадзейскім лугам.

**Андрэй Гаўрылюк**
Фота аўтара


Кленікі на Узнясенне.

## ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

### ЖАРТ КАНАЛІІ

Мне як вартаўніку на чыгунцы давялося пільнаваць вагоны. На начной змене, вядома, як бывае: дзяжурны руху крыху задрамаў, стрэлачнік захроп у шапку. І мяне сон пахіліў, але так вельмі я не здаваўся: то ў дзяжурцы пасяджу, то на двор выйду і ўздоўж вагонаў прайдуся. Пунктуальна а другой гадзіне ночы ехаў пад канвоем эшалон цяжкагружаных вагонаў. Машыніст затармазіў паравоз, і я ўбачыў, як сышоў з яго па сходках добра знаёмы мне чалавек. Убег ён у дзяжурку, у якой, чую, як не крыкне: „Гэта так вы робіце!? Спіцё сабе, а на чыгунцы ляжыць зарэзаны чалавек і чым вы цяпер апраўдаецеся, што невінаватыя?“

Беганіна, якая пачалася пасля гэтага, была проста дзікай! Усе патрухалі з фанарамі-ліхтарамі на рэйкі, давай з панікай выглядаць, дзе той нябожчык, але аніякага нябожчыка не знайшлі. І машыніст нарагатаўся з іхняга перапалоху, гэта быў яго такі жарт, ад якога валасы падымаюцца пад шапкаю! Нашы людзі любяць жарты каналіі.

Дзяжурны руху, расхадзіўшыся, бы той бобік, спушчаны з увязі, падбег да мяне:

— Ты, а ў цябе ўсё ў парадку?!

— Усё! — пракрычаў і я яму.

— Хадзі ў дзяжурку, і я пазваню, куды трэба.

Я пайшоў, думаючы, куды гэта ён званіць будзе. Калі дзяжурны пачаў званіць па тэлефоне, я зразумеў, што ў яго галаве „не ўсе дома“. Гэта здзівіла мяне, а потым і напалохала: ён прывар'яцеў ад жарту машыніста. У стрэлачніка таксама лекацелі рукі, але цяжка было адчуць, ці і ён яшчэ не вар'ят, бо нікуды не званіў і нічога не гаварыў.

Дзяжурны загаварыў у тэлефон:

— Пытаеце, хто звоніць? Звоніць да вас забойца людзей, я зараз выражу ўсю станцыю, у мяне доўгі нож у руках і, калі вы мяне не паслухаеце, то і вас я зарэжу, купляйце сабе месца на могілках, каштуе дваццаць пяць тысяч...

Я, доўга не чакаючы, паімчаў без духу да другога тэлефона, што ў суседнім будынку, каб выклікаць хуткую дапамогу са здаравезнымі санітарамі. Я кляў таго машыніста, і даў сабе слова, што паб'ю яму морду за такія жарты. Толькі дурань робіць жарты са смерці. Жарт каналіі!

**Аўрора**

(Працяг са стар. 1)




мацаты. „Калі любіце піць чай і каву, дык, відаць, яны вам не шкодзяць, — казалі. — А папяросікі лепей курыць не больш дзесяці-пятнаццаці ў дзень, такой колькасці іх ваша здароўе не адчуе“.

Пытанне: чаму я куру? Чаму іншыя кураць? Бывае, што кураць тыя асобы, у якіх нізкі крывяны ціск, а папяросы паляпшаюць гэты ціск, павышаюць. Гэта ж датычыць і чаю ці кавы, пасля якіх з'яўляецца лепшае самаадчуванне, большая актыўнасць. З каваю цяпер горш, бо цяжка купіць яе, але чай ёсць, ну, і папяросы. Павышае крывяны ціск і алкаголь, але яго шкоднасць арганізму вельмі вялікая, не кажучы ўжо пра цану бутэлькі. І прывыкнуць да алкаголю куды лягчэй!

Калі хто цікавіцца сваім здароўем, дык ведае, што маючы нізкі ціск крыві, не трэба есці цыбулі і часнаку. Чалавек робіцца тады разлезлы, сонны праз цэлы дзень, нічога яму не хочацца, і ўсё кідае яго ў холад. Трэба гімнастыкі, трэба нізка класці падушку, калі ідзем спаць. А нават у цёплых шкарпэтках спаць. А курцам мая парада: не курыць перад снеданнем ані ў час фізічнай працы, не дакурваць папяросу да канца, не курыць нервова, не занадта глыбока ўдыхаць дым, курыць толькі адзін гатунак папяросаў, найлепей на свежым паветры. Добра заўсёды мець папяросы з сабою, бо калі іх якраз няма, тады мацней цягне закурыць. Закурыўшы, не зацягвацца часта, лічыць, што курыце для прыемнасці, быццам цукерку жуючу, а не з патрэбы. Вучоныя супроць таго, каб курэц адразу кідаў курыць, гэта нядобра адчуе сэрца і цэлы арганізм, дарэчы кажучы. Трэба кідаць курыць пастунова. Курэнне — гэта не наркаманія, як хацелі б гэтага фанатыкі антынікатынізму. А жанчынам пацалункі курцоў не перашкаджаюць, я ніколі гэтага не заўважыў, ані мае знаёмыя, хаця заўважылі гэта Барскі і Панфілюк (яны нас больш палохаюць, чым праўду кажуць). Ведаю, чаму: самі не кураць, дык не цікавіліся яны ўсур'ёз нікатынізмам, ведаюць столькі, колькі пачулі ад кагосьці або ў газетцы якой прачыталі, скажам, прапаганду антынікатыністаў. Я не супроць антынікатыністаў, я супроць мала сур'ёзнай і мала рэальнай трактоўкі гэтага пытання.

Нават хлеб пашкодзіць, калі яго замнога наясіся. Трэба ўсім карыстацца, усё ёсць для людзей, але карыстацца трэба памяркоўна. Але гэта ўжо датычыць культуры чалавека, як культураю ёсць тое, каб курэц ведаў, дзе можа ён закурыць, а дзе проста не павінен. Чыстая дурнота — гвалтам забараняць курыць, як гэта ў нас цяпер здараецца, што забаронена курыць нават на перонах вакзалаў. Гэта ж абражае годнасць, ствараецца вакол курцоў настрой ненармальнасці. Хоць ты ў падполле якое ідзі!

**Рышард Бутайла**

СЯБРЫНА

# ПРЫГОЖЫЯ ДРЭВЫ

**Размова з Іаанн͏ай Целушэцкай**

**Міра:** Ты якраз вярнулася з Прагі...

**Іаанна:** Ох, як там было!... Расказаць гэта... Проста цяжка пачаць, было столькі гэтага, столькі, што не ведаю, як і расказваць...

**М.:** Як ты туды трапіла?

**І.:** Наша школа (І Агульнаадукацыйны ліцэй у Беластоку) належыць да школ **Юнэска.** На ўроку польскай мовы настаўніца сказала, што з Кельцаў прыйшла інфармацыя аб конкурсе на плакат на тэму „Ахова прыроды і чалавека ў сучасным свеце“. Я вучуся ў біялагічна-хімічным класе, у нас няма прадмета мастацтва. Я намалявала дзве работы. На адным плакаце — яблыка, з якога я выразала контуры кантынентаў, якое точыць вялізны чарвяк — цывілізацыя. На другім малюнку — да зямнога шара падключаная краплёўка з пажыўнай вадкасцю. Я не спадзявалася ўзнагароды, тым больш першага месца. І ва ўзнагароду я паехала ў Прагу, у пленер, з 13 вучнямі з мастацкіх ліцэяў. Мы малявалі, хадзілі па горадзе, на дыскатэкі, пазнаёміліся з многімі людзьмі. Ой, было ўсяго! Найгорш было ўставаць а 6 гадзіне, спаць клаліся а 3... Ніхто не мог прымусіць нас да „начной цішыні“. Колькі цікавых людзей, асабліва адзін кітаец, які ўмеў гаварыць па-чэшску!

**М.:** Яны падобныя на тваіх сяброў з ліцэя?

**І.:** Вучні з мастацкага ліцэя — зусім іншыя. Больш адкрытыя. Мастакі іначай бачаць свет, звяртаюць увагу на ўнутраны свет чалавека, не на тое, што важнае для нас, дзе галоўнае — грош і „цюшкі“. Яны такія ўражлівыя!

**М.:** Такі ён, гэты малады мастак, з якім ты, напэўна, пазнаёмілася ў Празе?



**І.:** Так...

**М.:** Ты калісьці малявала ў „Зорку“.

**І.:** У „Зорку“ я малявала ў 7 класе, асабліва лясных звяроў.

**М.:** Ты любіла маляваць на гладкай паперы на адвароце здымкаў бацькі, Янкі Целушэцкага. Што ты аб ім скажаш?

**І.:** Ён вельмі ўпарты. Іншая яго рыса такая, што яшчэ пасля 10 гадзіны вечара піша на машыне. Я сама пісала ў 5 класе апавяданні, тата казаў, што нядрэнныя, але цяпер неяк не пішу.

**М.:** Што ты думаеш рабіць пасля ліцэя?

**І.:** Я толькі што скончыла 2 клас. Што я буду рабіць... Гэта, мусіць, не будзе звязана з біялогіяй ці хіміяй, выберу, пэўна, педагогіку. Шкада, што цяпер няма такіх двухгадовых педагагічных школ, у якой вучыўся тата.

Дахаты намалюю некалькі карцін. У мяне ўжо ёсць мастацкія фарбы, мальберт, падрамнік. Я хачу намаляваць нешта з роднай мамінай старонкі, тую леснічоўку, дзе жыла мама, каля Белавежскай пушчы — гэта хутар Бобінка, каля Старыны. Там вельмі прыгожыя дрэвы. А што датычыць бацькавай старонкі — год ужо я не была ў Ляўкове — на жаль, там ужо многа спустошана, лес затаптаны. А там жа такія прыгожыя дрэвы!

**Гутарыла Міра Лукша**

## ШУКАЦЬ І ЗНАЙСЦІ

Напісаць пра Крысціну Гаўрылюк з Гайнаўкі, якая вось у маі бягучага года, здаўшы на выдатна ўсе матуральныя экзамены, закончыла Беларускі ліцэй у Гайнаўцы, мне захацелася таму, што яна, дайшоўшы да цэнтральных элімінацый у алімпіядзе нямецкай мовы, у Варшаве, перад тамашняй камісіяй, тэмай свайго выступлення ўчыніла расказ пра Беларусь і беларускасць. Заняла гэтым шостае месца і цяпер мае магчымасць без уступных экзаменаў паступіць на нямецкую філалогію ў любым універсітэце краіны.

Калі я пазваніла дырэктару ліцэя Аляксандру Іванюку, каб больш даведацца пра алімпійку, ён мне расказаў яшчэ і такое: Крысціна — выдатны лінгвіст увогуле. Прыйшла яна ў беларускі ліцэй з іншага ліцэя пасля заканчэння там трэцяга класа. У беларускім ліцэі вучылася адзін год у класе 4а і так любіла беларускую мову, што вывучыла і здала яе на выдатна. Вельмі цікавіцца беларускай гісторыяй і культурай. А за яе выступленне на цэнтральнай алімпіядзе нямецкай мовы Беларускі ліцэй у Гайнаўцы атрымаў падзяку.

Падрыхтаваў Крысціну Гаўрылюк да алімпіяды нямецкай мовы былы вучань і выпускнік Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы, цяпер выкладчык нямецкай мовы ў ліцэі Васіль Дамброўскі. Вось і ўсё. Можна толькі яшчэ дадаць, што навука з гэтага маладым такая: шукайце сябе і свайго, тады напэўна знойдзеце.

**(вв)**

## МЕЛІЯРАЦЫЯ — ГЭТА АДВАДНЕННЕ?

Добра праведзеная меліярацыя прыносіць вялікую карысць сельскай гаспадарцы значна павялічваючы ўраджаі. Калі меліярацыя праведзена дрэнна, яна дае толькі часова добрыя вынікі.

Прадпрыемства меліярацыйных машын і транспарту ў Бельску меліяруе сёлета сялянскія палі ў былых трох паветах: у Бельскім — у раёне Аўгустова, дзе працуе пяць машын, у Гайнаўскім — у раёне Койлы-Курашава, там знаходзіцца сем машын, а таксама ў былым Сямяціцкім павеце — у раёне Мілейчыц, дзе працуе аж пятнаццаць машын. Пра ўсё гэта паінфармаваў нас інжынер-механік прадпрыемства Арсень Артысевіч. Аб размаху меліярацыйных работ, якія выконваюцца гэтым прадпрыемствам, сведчыць той факт што на працягу года меліярацыйныя машыны спальваюць 1 мільён 200 тысяч бензіну і алею. Прадпрыемства паспяхова рэалізуе інжынерскія меліярацыйныя праекты. Але, на жаль, гэтыя праекты маюць шмат недахопаў. Праектанты ў асноўным праектуюць адвадненне і лічаць меліяраваныя гектары, а мала плануюць неабходнае ўперыяд засухі навадненне. Забываючыся аб эфектыўнасці праведзенай меліярацыі, робяць яе толькі на сёння, не думаючы аб заўтрашнім лёсе зямлі.

А меліярацыя ж — не толькі адвадненне. У гэтым слове заключаны глыбокі змест.

**(мх)**

## КАХАННЕ НА КАЗЁННАЙ УРАЧЫСТАСЦІ

У Гайнаўскім доме культуры адбылася ўрачыстасць у сувязі з трыццацігоддзем Саюза вясковай моладзі. Быў даклад. Былі ўспаміны. Выступілі самадзейныя гурткі. Вялікае брава было беларускаму тэатральнаму гуртку з Тыневічаў, які паказаў колішнія адведкі (нават і я тымі стравамі пасля ў іх паласавалася). Вельмі прыгожа спявала дзяўчынка з Сакоў.

І ўспаміны здараліся цікавыя. Адзін былы дзеяч з Хітрай гаварыў, як цяжка дабіцца добрых перспектыў на будучыню. Сельская гаспадарка цяпер як бы разгортваецца, і дзяржава шмат дапамагае, не так, як калісьці: дзяры-бяры з гаспадара! Аднак, быць гаспадаром усё менеи і менеи аплачваецца. Іншы ўспамінальнік кажа на гэтай урачысці: „Прабачце, што я тут нікога і нічога не бачу, бо я сустрэў сваё каханне, пасля пятнаццаці гадоў сустрэў...“

Выступіў і Грыша Баравік як загадчык бюро Саюза вясковай моладзі ў Гайнаўцы. Ён хацеў бы апублікаваць матэрыялы наконт трыццацігоддзя гэтай арганізацыі на Гайнаўшчыне. А гэта няпростая справа пры цяперашніх цэнах у друкарнях, недахопе адпаведнай паперы і балагане ў вытворчасці.

**М. Пень**

# ВЯЛІКІ ДОМ ДЛЯ 46 ТЫСЯЧ

Сорак гадоў назад, у чэрвені 1947 года была арганізавана **Беластоцкая жыллёвая спулдзельня (БСМ).** Першы шматсямейны дом быў пабудаваны ля скрыжавання вуліц Ліповай і Астроўскага. На першым паверсе былі адкрыты крамы і пункты паслуг. Пасля быў першы жыллёвы пасёлак, які назвалі пасёлкам **Тысячагоддзя.**

Сёння БСМ мае 278 жылых будынкаў у шасці пасёлках. У спулдзельчых кватэрах зараз пражывае 46 тысяч чалавек. У мінулым годзе апрача васьмідзесяці жылых кватэр аддалі ў карыстанне прадшколле на 120 месц, гандлёвы павільён, які займае плошчу ў 1300 кв. метраў, а таксама памяшканні для „Орбісу“ па вул. Жаб'яй.

У пабудове знаходзяцца, між іншым, амбулаторыя з аптэкай, пачатковая школа з 24 класнымі пакоямі ды яслі на 75 месц — усе гэтыя інвестыцыі знаходзяцца на пасёлку **Беласточак** (на здымку).

У мінулым годзе каля жылых блокаў пасадзілі пяцьсот дэкаратыўных дрэўцаў і некалькі тысяч усялякіх кветак. Шматлікія работы пры добраўпарадкаванні кветкавых клумб і газонаў выканалі ў грамадскім пачыне самі жыхары паасобных пасёлкаў.

Спулдзельня мае восем пасялковых клубаў і святліц. Дзейнічае ў іх больш сотні розных мастацкіх калектываў ды ўсялякіх гурткоў зацікаўлення у якіх удзельнічае тры тысячы асоб. У галіне грамадска-выхаваўчай дзейнасці БСМ мае вялікія дасягненні. Здабыла яна высокую ацэнку кіраўніцтва Цэнтральнага саюза спулдзельчага жыллёвага будаўніцтва.

Праўленне БСМ у бліжэйшым часе плануе пабудову пасёлка Пяскі II у квадраце вуліц: Млыновай, М. Каперніка, Мазавецкай і Кардынала Вышынскага. Будзе тут каля трох тысяч кватэр.

**(ЯЦ)**

Фота аўтара.






## У КОЖНАГА СВОЙ ШАЛЁНЫ

Як кажуць людзі, у кожнага свой шалёны. Я хварэю на кніжкі. Жонка мая іншы раз скажа: падлога не вытрымае, заломіцца пад імі, пад гэтымі цяжэрнымі паліцамі! Я тлумачу ёй, што катастрофы не будзе. Яна возьме і прызлуе на мяне, у лоб свой пальцам пастукае, што нібы ў маім нешта не так усё... Можа і не так, падумаю я.

У мяне ёсць знаёмы музыкант, які ўсё купляе новыя акардэоны, мае іх ужо чатыры. Марыць ён пра куплю італьянскага гармоніка. Гэта быў бы пяты яго набытак. Калісьці амаль быў не купіў яго, але ўсяму крыж паставіла яго жонка. Ён гэты гармонік ужо і купіў, у куфар схаваў, ключом замкнуў, і, шчаслівы, вышаў з хаты, у краму. Жонка яго ў той час адшукала схаваны ключ, адамкнула куфар з гармонікам, схапіла яго ды гайда ў Гайнаўку, да таго чалавека, які прадаў яго. Сказала яна праўду, што яе муж хворы на сэрца, і таму шкодна яму іграць на такім інструменце. Можа ён іграць толькі на тых чатырох, не італьянскіх, не такіх дарагіх...

Што потым чаўплося паміж імі, я добра не ведаю.

**М. П.**

## ЭЛЕКТРОНІКАЙ У КІШКІ

У Францыі прыдумана мініяцюрная пілюля, набітая электронікай. У прыватнасці зубчастае кольца, якое выступае з пілюлі пасля таго, як яе праглынуць, вымярае шлях пройдзены па кішэчніку. Аказалася, што даўжыня тонкай кішкі ў чалавека роўная не 7-8, як лічылася звычайна, а 5-6 метрам. Завышаная лічба была атрымана на трупах або пад высокім наркозам у час аперацыі. У жывога чалавека кішка злёгку скарочана.

# ПРЫГОЖАЯ СТАРАСЦЬ

На адкрыццё этнаграфічнай выстаўкі ў памяшканні аддзела БГКТ з нагоды Дзён Бельска прыйшоў і былы настаўнік беларускай мовы, пенсіянер ад 1968 года Андрэй Маскалевіч. Хаця яму ўжо 86 гадоў, ён надалей цікавіцца дзейнасцю Беларускага таварыства, членам якога з'яўляецца ад 1956 года. І да сёння, як заўважае інспектар ГП БГКТ для Бельскага раёна Анна Бжазоўская, ён ніколі не забываецца аб аплочванні членскіх складчын, гэты статутовы абавязак ён выконвае штогад першы.

Андрэй Маскалевіч вядомы як нястомны грамадскі дзеяч. Праўда, у апошнія гады з увагі на свой узрост ён гэту дзейнасць значна абмежаваў. Цяпер найбольш увагі прысвячае змаганню з грамадскімі паталагічнымі з'явамі, як напрыклад, курэнне, ці п'янства. З'яўляецца ён найбольш актыўным прапагандыстам Таварыства паўсюдных ведаў у Бельску. Ад новага года да 1 чэрвеня каля 40 разоў выступаў Андрэй Маскалевіч перад большымі і меншымі аўдыторыямі, даказваючы згубнасць злоўжывання алкаголю, і больш 20 разоў гаварыў аб шкоднасці курэння.

Калі пагаварыць з Андрэем Маскалевічам на тэму здароўя, то ён наймацней падкрэслівае значэнне штодзённай гімнастыкі. У гэтым ён пераканаўся на ўласным вопыце. Ён штодзённа, ад наймаладзейшых гадоў — калі толькі займеў радыёпрыёмнік — выкарыстоўвае кожную раніцу маскоўскія і варшаўскія радыёперадачы па гімнастыцы. Пасля таго, як зробіць гімнастыку, адчувае сябе вельмі добра і таму ён перакананы, што гімнастыка робіць чалавека адпорным на розныя хваробы.

Старасць непазбежная, і нельга на яе скардзіцца ды бачыць толькі адмоўныя яе бакі. Калі Андрэй Маскалевіч пайшоў на пенсію, ён не перастаў быць чалавекам актыўным і ў жыцці надалей знаходзіць шмат каштоўнага, і цікавага, а яго жыццёвая мудрасць і вопыт, якімі можа падзяліцца з іншымі, даюць яму вялікую сатысфакцыю. Усё гэта сведчыць аб шчаслівай старасці Андрэя Маскалевіча і яго 85-гадовай жонкі.

**Міхась Хмялеўскі**

(Працяг са стар. 2)

# АБ „АНТЫСЕМІЦЕ"

каў пана ў сувязі з вельмі паважнай справай.

Ёахімак: Пан дэкан, прашу пана занадта не пераймацца, бо гэта паважная справа, праўдападобна, акажацца смешнай справай.

Дэкан: Пане Ёахімак, прашу пана паважна трактаваць гэту справу, бо яна пагражае пану непрадбачанымі і непрыемнымі паслядоўнасцямі.

Ёахімак: Пане дэкан, можа пан быць спакойны, не думаю, каб нейкая там малпа, хаця яна гэтага і прагне, зрабіла мне нейкую непрыемнасць.

Дэкан: Пане Ёахімак, прашу з пашанай гаварыць аб троіх асобах. Тым больш, што асоба, якую вы так брыдка называеце, ставіць у адрас пана закіды, якія пану пагражаюць судом.

Ёахімак: Пане дэкан, я ведаю гэту паню і яе закіды і хачу пана дэкана запэўніць, што з прычыны гэтага даносу не будзе нічога, апрача вялікага смеху.

Дэкан: Дык я пану скажу нешта такое, чаго пан, праўдападобна, не спадзяваецца. Пані Повал... абвінавачвае пана ў антысемітызме, а гэта, як вядома, праследуецца законам і таму зусім магчыма, што пану пагражае суд.

Ёахімак: Пазволіць пан дэкан, што я крыху пасмяюся, а пасля яшчэ раз пана дэкана запэўню, што ніякага суда не будзе.

Дэкан: Калі пан не перапросіць паню Повал... і не дойдзе з ёю да згоды, дык яшчэ раз гавару, што пану пагражае суд.

Ёахімак: Яшчэ раз гавару, што ніякага суда не будзе.

Дэкан: Чаму?

Ёахімак. Таму, што пані Повал... ва ўсіх сваіх дакументах піша, што яна рускай нацыянальнасці, а я ва ўсіх сваіх дакументах пісаў, пішу і буду пісаць, што я — яўрэй. Ці ж знойдзецца, пан дэкан, на свеце такі дурны суд, які свядомага яўрэя абвінавачваў бы ў антысемітызме па прычыне даносу асобы, якая не прызнаецца да свайго яўрэйства?

Пасля сказанага Ёахімкам наступілі мінуты тры поўнага маўчання. Дэкан выразна быў збіты з панталыку. Ёахімак разбурыў поўнасцю ўсю структуру яго аргументацыі. У канцы канцоў, дэкан выціснуў з сябе:

— Пане Ёахімак, ці пан не маніць?

— Не, пане дэкан. Тое, што я гавару, знаходзіць пацвярджэнне ў дакументах.

Зноў наступіла доўгае маўчанне і пасля яго выразна збянтэжаны дэкан сцвердзіў:

— Пане Ёахімак, пераканаў мяне пан поўнасцю. Прашу трактаваць справу як нябыўшую, бо яна ў нейкай ступені і мяне кампраметуе. Маю просьбу да пана і да пана Баршчэўскага, каб вы нікому не паўтаралі таго, што тут гаварылася.

Мы паабяцалі дэкану маўчаць.

Прагну сказаць, што Ёахімак не маўчаў болей як пяць мінут і вельмі хутка ўсе даведаліся аб усёй размове і аб тым, што „stara małpa zwiła na siebie bat".

Прайшло больш як трыццаць гадоў ад гэтай гісторыі, але яна засталася ў маёй памяці. Чаму? Таму, што яна каларытная і смешная.

**Алесь Барскі**




# НА ЖЭГЛІШЧЫ

Гэтай весткі чакалі не толькі ў Горадні ці Троках, рыхтаваліся да яе ў Полацку і Ноўгарадзе, у Варатынску на Ацэ і Курску на Сажы, Кіеве і Луцку, нават у далёкім Брацлаве на Падоллі. Разнеслі ж весць на ўзмыленых конях ганцы ў апошніх днях мая 1377 года: пасля доўгіх пакут князь Альгерд скончаўся. І надзвычай буйна разрослы род вялікага Гедыміна — дзеці, унукі і праўнукі, што апанавалі аграмадныя прасторы ад Клайпеды на Балтыйскім да Ачакова на Чорным марах, і ад Мажайска на рацэ Маскве да старажавых крэпасцяў на Вепры пад Люблінам — пацягнуўся на пахаванне ў Вільню. З'язджаліся доўга, марудна, як быццам бы прадчувалі, што гэта будзе апошняя такая ўрачыстасць.

Пахаванне, мабыць, адбылося на Ушэсце, паніхіду над адкрытай труной служыў мітрапаліт Кіпрыян у суправаджэнні некалькіх святароў у Троіцкай царкве, пабудаванай яшчэ першай жонкай нябожчыка, княгіняй Марыяй. Вакол труны палаў густы лес свечак, але і без паху вашчыны і фіміяму ніякага „духу" з труны не было чуваць: старасць і хвароба высушылі цела нябожчыка, быццам смалісты сасновы корань. Шматгалосны хор пранікнёна інтанаваў „Упакой, Госпадзі...", і на вочы панылай у суме княскай радні нагортваліся слёзы...

Калі паніхіда закончылася, мітрапаліт праводзіў труну толькі да царкоўнай брамы і там развітаўся ў кароценькім, але прачуленым слове з нябожчыкам. Аддаў яму належнае: падзякаваў, як бацьку, за апеку, узвышэнне на мітрапалічны пасад. Праслязіўся. Але за браму не выйшаў — туды, на жэглішча, яму, хрысціянскаму першасвяшчэнніку, ісці не выпадала.

Там жа, дзе рэчка Вільна ўпадае ў Вілію, на княжацкім жэглішчы, ужо ўсё было гатова. І як толькі труна стала на вяршыні ахвярнага стуса, на смалістыя палены княжыя слугі ўзвалілі перавязаных любімых нябожчыкам стаеннікаў, кінулі некалькі палонных крыжакоў са скручанымі рукамі ды нагамі, а старэнькі Альгердаў слуга не даўся звязацца — сам ускарабкаўся на стус і на каленях застыў, абхапіўшы рукамі труну свайго пана...

Заенчыў баявы рог, і Кейстут, як самы старэйшы ў родзе, узяў гарэўшую побач паходню са святым агнём і прыхіліў да смаліны. Полымя ўмомант ахапіла стус. Шуганула аж да труны — завішчэлі ахвярныя коні, зараўлі палонныя, толькі верны слуга не зварухнуўся і голасу не падаў.

Абодва сівенькія, як галубы, Кейстут і Любарт стаялі побач і, абапершыся адзін на другога, у задуме сачылі за паглынаючым усё полымем. Дзе тады луналі іхнія думкі?

Кейстут зірнуўшы на грамаду Альгердавых сыноў, што ўжо з дарослымі дзецьмі шчыльным гуртом стаялі побач, зглануў, мабыць, пра сваю не зусім удалую сямейку. Як устанавіў польскі гісторык Я. Вольф, у Кейстута было не шэсць, як падаюць летапісы, а сем сыноў: Пацірг, Вайшвіл, Вайдат, Бутаўт, Вітаўт, Таўцівіл, Зыгмунт. З іх любімцам бацькі быў Вітаўт, які, як чытаем у „Хроніцы Быхаўца", „калі праваслаўным стаў, далі імя Юрый, а калі ахрысціўся ў каталіцкую веру, тады атрымаў імя Аляксандр". З яго асобай Кейстут звязаў усю сваю надзею і ў ім бачыў свайго наследніка. Хоць найбольш яму аддproperly быў Пацірг — летапісны Патрыкей. С. Салаўёў у „Гісторыі Расіі", абапіраючыся на малавядомым летапісе, піша: „У 1360 годзе Альгерд, Кейстут і сын апошняга Патрыкей зышліся з вялікім магістрам на літоўскіх граніцах: бітва працягвалася ўвесь дзень, і крыжакі перамаглі. Надарэмна Кейстут намагаўся паўстрымаць уцякаючых і ўзнавіць бітву: яго звалілі з каня. Патрыкей кінуўся ў гушчу ворагаў ратаваць бацьку, але таксама быў збіты з каня, падняўся і адбіваўся датуль, па-

(Працяг са стар. 1)

# ФЭСТ У МАЛІННІКАХ

На фэст прыйшлі таксама яго старэнькія бацькі. Беластоцкія харысты сардэчна ўшанавалі іх. Пасля выканання прывітальнай песні, ад імя калектыву выступіла яго арганізацыйны кіраўнік Валянціна Ласкевіч (яна і старшыня аддзела). Звярнулася яна да іх з цёплымі словамі падзякі, што вырасцілі такога сына, які ўносіць велізарны ўклад у развіццё беларускага культурнага руху на Беласточчыне, пажадала ім добрага здароўя і ўручыла кветкі. І „Каласкі“ спявалі далей, у праграме ж было больш за 30 песень! Прысутныя захапляліся нашай нястомнай салісткай Любай Гаўрылюк, спевам ветэрана вайны Юркі Налівайкі і іншых.

Салістка Іяланта Загон вучыца ў малінніцкай пачатковай школе.

Канцэрт працягваўся больш дзвюх гадзін, а людзей сабралася каля тысячы чалавек. Прыехалі яны з многіх вёсак. У фэсце ўдзельнічалі і прадстаўнікі гмінных улад Орлі: сакратар Гміннага камітэта ПАРП Аляксандр Шыманскі і сакратар Гміннай управы Канстанцін Капонаў. Яны таксама высока ацэньвалі канцэрт. А пасля канцэрта выйшла з публікі жанчына і ўсхваляваным голасам выказала вялікую падзяку „Каласкам“ „за цудоўныя нашыя беларускія песні, за глыбокія перажыванні, за духоўнае свята. Была гэта жыхарка Маліннікаў Анна Калішук.

Бацькі Сцяпана Копы.

Удзельнікі фэста.

Старшыня аддзела Янка Добаш падзякаваў усім удзельнікам мастацкай часткі, а таксама мясцовым арганізатарам за добрую падрыхтоўку фэста, які стаў сапраўдным святам беларускай песні.

Хочацца сказаць і аб тым, што ў часе фэста каля святліцы адбываліся спартыўныя гульні, быў таксама праведзены БГКТ-оўскі конкурс. Арлянскі ГС добра забяспечыў фэст некаторымі прадуктамі і напіткамі.

Арганізатары фэста з Маліннікаў запрасілі беластоцкіх харыстаў і іншых гасцей на маленькі пачастунак, які прайшоў у прыемнай і сямейнай атмасферы.

**Міхась Хмялеўскі**
Фота аўтара

# БЕЛАРУСІКІ

**1985**

Antoniuk L. A., Kultura tekstu naukowego a normalizowanie terminologii naukowej w języku białoruskim. Tł. Małgorzata Leczycka. *Prasa Techniczna* 1985, nr 1, s. 23—24.

Arechwa Mikołaj, Dieła i ludi KPZB. Mińsk 1983. Rec. Bergman Aleksandra, *Przegląd Historyczny* 1985, z. 4, s. 855—859.

Arendt Kazimierz, Kupała J. — Poeta bólu i nadziei. *Okolice* 1985, nr 1, s. 79—82.

Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny. T. 1. Wrocław 1980. Rec.: Traczuk Jerzy, *Kontrasty* 1985, nr 11, s. 43—44.

Baradulin Ryhor, Nie ma małych narodów (w). — Na Białorusi (w). Tł. Tadeusz Chróścielewski. *Pisma Literacko-Artystyczne* 1985, nr 9, s. 65—66.

Bergman Aleksandra, Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej. Warszawa 1984. Rec. Szachowicz Michał, *Kontrasty* 1985, nr 4, s. 40—41; Wróbel Piotr, *Nowe Książki* 1985, nr 12, s. 128—130.

Bykau Wasil, Umarli nie cierpią. Fragm. Tł. Maria Pietkiewicz, Włodzimierz Pietkiewicz. *Literatura na Swiecie* 1985, nr 11, s. 217—267, il., rys.

Czanturija Wladimir, Architiekturnyje pamiatniki Bielorussii. Mińsk 1982. Rec. Ściepuro Marian, *Acta Universitatis Wratislaviensis nr 784 Slavica Wratislaviensia* 1985, t. 36, s. 130—133.

Czurak Maria, Komizm w białoruskiej prozie ludowej. Wrocław 1984. Rec. Sielicki Franciszek, *Lud*, t. 69: 1985, s. 315—318.

Czurak Maria, Lud białoruski Michała Federowskiego a polska bajka ludowa. *Studia Polono-Slavica-Orientalia Acta Litteraria* 1985, t. 9, s. 137—143.

Góra Stanisław, Początki powstania styczniowego na Litwie i Białorusi oraz działania oddziału Romana Rogińskiego na tych terenach w okresie od 7 lutego do 3 marca 1863 r. *Studia i Materiały do Historii Wojskowości* 1985, t. 28, s. 199-211.

Hajduk Mikołaj, Białoruskie obrzędowe pieśni narodzinowe na Białostocczyźnie. *Studia Polono-Slavica-Orientala Acta Litteraria* 1985, t. 9, s. 163—187.

Janowicz Sokrat, Srebrny jeździec. Warszawa 1984. Rec. Młodzianowska Lena, *Kontrasty* 1985, nr 7, s. 38—39.

**P.C.**

куль не падбеглі свае і не выручылі з бяды; але бацькі ўратаваць не змог“. Кейстут, як мы ўжо пісалі, трапіў у Мальбарк, але неўзабаве адтуль, дзякуючы Альфу, уцёк разам з ім.

Кейстут, відаць, ацаніў баявітасць і ахвярнасць Патрыкея і надаў яму Гарадзенскае княства. Аднак на гэтым найважнейшым у бацькавых уладаннях княжацкім пасадзе Патрыкей доўга не ўтрымаўся, бо неўзабаве ў Горадні бачым Вітаўта. Затое ў летапісах пад 1379 годам паяўляецца нейкі таямнічы князь Патрыкей Нарымунтавіч. Калі летапісец памылкова палічыў яго сынам пінскага князя Нарымунта-Глеба, то гэта і будзе наш Патрыкей Кейстутавіч, які, мабыць, пад націскам малодшага брата Вітаўта пакінуў княжацкі пасад у Горадні і пайшоў на службу ў Вялікі Ноўгарад і там яго бачым як ахоўніка паўночных уладанняў гэтага горада-рэспублікі — Русы, Ладагі і Нараўскага берага.

Таксама сярэдняму сыну Кейстута, прыгажуну Бутаўту, не знайшлося месца пры бацьку. Як падае сучасны польскі гісторык М. Косман: „Бутаўт... наслухаўся рыцарскіх аповесцяў пра чароўнасці далёкага свету, пра магутныя замкі, цікавых людзей і захапляючыя гульні ды патаемна ўцёк з адным сваім сябрам, ахрысціўся ў Кенігсбергу, атрымаў ад нямецкага імператара званне князя і з таго часу блукаў па Нямеччыне“. Ці ў сапраўднасці цяга да прыгодаў пазбавіла гэтага Кейстутавіча бацькаўшчыны?

Мабыць, трэба прыслухацца і да аўтара „Хронікі Быхаўца“, які паведамляе, што дакладней не названыя па імю Кейстутавы тры сыны „ў маладосці сваёй... без удзелаў... памерлі“. Такім чынам з сямі сыноў Кейстутавых на пахаванні дзядзькі Альгерда стаялі пры бацьку, мабыць, толькі два: 27-гадовы Вітаўт-Юрый і не болей як 10-12-гадовы Зыгмунт.

Не засядзеліся на бацькавым і Кейстутавы дочкі. І гэта, вядома, цешыла яго. У памяці, мабыць, усплывала першае вяселле, калі ён выдаваў сваю найстарэйшую Дануту за Януша, сына князя чэрскага Земавіта. Вяселле спраўлялі разам з хрысцінамі: Данута спачатку была ахрышчана новым імем Анна. Кумаваў славуты крыжацкі рыцар Гюнтэр фон Гогенштэйн, хітры чалавек. Пасля хрысцінаў — вяселле гучнае згулялі. Тыдзень цэлы весяліліся. Нават магутныя, непрыступныя вежы чэрскага замка здаліся лёгкімі і ўтульнымі. А два гады таму адвёў аж за Смаленск найменшую. Пры хрышчэнні далі ёй імя Марыя. Пайшла яна замуж за князя Івана, сына вялікага князя цвярскога Міхаіла. Часам цесць жартаваў, што ў яго зяць адзін: толькі за Волгай ён завецца Івашкам, а за Віслай — Янушкам.

Зводьна дагараў пахавальны стус. Цяпер Гедымінавічам належала б падацца ў замак на нараду, каб ухваліць волю нябожчыка. Але ўсе неяк не кіраваліся ў бок Замкавай гары, а падзяліліся на невялікія гурткі і гаманілі аб нечым. Першым ад'ехаў, ні з кім не развітаўшыся, найстарэйшы сын нябожчыка Альгерда — князь полацкі Андрэй. Што ж, ён лічыў сябе вельмі пакрыўджаным бацькам, бо той яшчэ пры жыцці назначыў сваім спадчыннікам на Вільні не яго, найстарэйшага, але малодшага Ягайлу — Якуба. За ім падаліся падольскія Карыятовічы, маўлялі, што ім найдалей дадому, а папраўдзе, дык гэтым ад'ездам давалі волю сваёй крыўдзе, бо лічылі, што нябожчык Альгерд бясправўна пазбавіў іх бацькавага ўдзелу — Наваградчыны — аддаў яе сваім сынам, а іх выпхнуў на Падолію. Старэнькі Любарт пацягнуўся за Карыятовічамі, мяркуючы, што яму то ўсё роўна, хто будзе княжыць у Вільні, бо ён і так мусіць ладкаваць з венгерскім Вышаградам ды польскім Кракавам, калі хоча дажыць сваіх дзён на княжацкім пасадзе ў Луцку. Іншыя таксама недзе ўбакі паразыходзіліся.

Кейстут глядзеў на гэты разлад і не спрабаваў яго сунімаць. Добра ведаў, бо штодня чуў, якія непрымірымыя супярэчлівасці ды заядлая варожасць раздзірае шматлікі род Гедымінавічаў. І цяпер увачавідкі пераконваўся, што запавет бацькі, вялікага князя Гедыміна, памірае і яго не аздаравіць ужо мальбамі ды заклікамі да яднання.

**Мікола Гайдук**

# Зорка
## старонка для дзяцей

# ЧЫТАЙЦЕ! на канікулы казкі! на канікулы казкі!

## АЧАРАВАННЕ

З цэнтральнага агляду сёлетняга школьнага конкурсу „Беларуская песня 87" у Бельску.





Злева Эва Заброцкая з Аўгустова каля Бельска. Спявала „Дубок" і „Вы шуміце, шуміце". Рыхтавалася пад кіраўніцтвам настаўніцы беларускай мовы Веры Малішэўскай.

Уніза Мар'я Вярбіцкая з Нараўкі з песнямі „Ульяніца" і „Сядзеў камар". Рыхтавалася пад кіраўніцтвам настаўніка беларускай мовы Мікалая Варанецкага.

Васіль Вітка

## ДУДАРЫК

Сеў у полі на каменьчыку,
Узяў дудку на раменьчыку.

Ду, ду, ду — дуда гудзе,
Полем водгалас ідзе.

Надакучыла іграць,
Каля дуба лёг паспаць.

Вісіць дудка на суку,
Спіць дударык на баку.

Павярнуўся дагары
І так моцна ён захроп —

Скалануўся дуб стары,
Дудка — бух у самы лоб.

Тут яму і сон не ўсон,
На ілбе гудзе ўжо гуз.

Не сабраў і трэсак ён,
Бо ад дудкі толькі друз.

Падняў хлопец паясок,
Пайшоў з плачам у лясок:

— Куды дзецца мне цяпер?
Цікаваць буду цяпер.

Спадціпка пад куст падпоўз
І цяцёрку — хоп за хвост.

З пёрка выразаў дуду:
— Ой, зайграю, загуду.

Што было, тое сплыло,
Пайду з дудкаю ў сяло.

Заканчэнне будзе.

## ТРЫ ВУЗЯЛКІ

Казка

Жыў быў у бацькі з маткай сынок. З дзяцінства яго вабіла да вады. Як з дому выйдзе, дык і на сажалку — так і глядзі, што ўтопіцца. Маці карала яго, бацька таксама бярозавай кашы сынку не шкадаваў, ды нічога не дапамагала — усё хлапчук да вады цягнецца, што ў рукі ні возьме — усё ў ваду кідае. Раздораз маці шукае то лыжку, то ступу, то шапку, то чаравікі, а яны ўжо ў сажалцы плаваюць — гэта сынок караблікі пускае! А крыху падрос сынок — пачаў па сажалцы плаваць то ў карыце, то ў цабэрку. Бяда з ім, дый годзе!

І парашылі бацька з маткай — калі ўжо не адвучылі хлапчука ад вады, хай будзе марак ом.

Завялі яны сына да аднаго старога марака і папрасілі ўзяць яго ў навуку. Марак не адмовіўся... Мінуў нейкі час — прывёў марак сынка да бацькі з маткай і кажа:

— Навучыў я вашага сына ўсяму, што сам ведаў! Будзе ён добрым маракам.

На развітанне даў ён сваёму вучню шкерцік — абрэзак тонкага каната — з трыма вузялкамі.

— Хоць ты і ведаеш цяпер усе моры і ўсе вятры, — сказаў ён, — ды трэба іх не толькі ведаць, а і кіраваць імі. Калі на моры ветру няма і стаіць штыль, патрэбна мараку цярпенне, каб дачакацца, калі парусы напоўняцца ветрам. Калі бушуе вецер і на моры шторм, патрэбны мараку сіла і храбрасць, каб духам не ўпасці... Хлопец ты добры і спадабаўся мне — вось я і дару гэты шкерцік з трыма вузламі. Пакуль будзе ён у тваіх руках, — будзеш ты плаваць па марах і ў буру і ў штыль, будуць слухацца цябе і моры і вятры! Калі вецер сцішыцца, развяжы першы вузел, і падзьме табе спадарожны вецер. Калі будуць гнацца за табой піраты, — развяжы другі вузел, і ўзнімецца шторм, а тады ворагам будзе не да цябе. Калі захочаш ты ціхага мора, развяжы трэці вузел — любы шторм супакоіцца адразу ж!

І пачаў плаваць вучань старога марака на сваім караблі, і ўсю-

(Працяг на стар. 10)

Аўр'ян Дзеружынскі

## ДЗІВА

Прыйшла качка
У хату з рэчкі
Напаліла хутка
Печку.
Качар —
Добры хлебапёк,
Шэсць буханак хлеба
Спёк,
Падмялі падлогу
Мышы.
Кот прынёс
Яловых шышак,
Стаў іх есці
І хваліць,
Мышак шэранькіх
Карміць.
Бык зрабіў сабе
Гняздзечка
І адразу
Знёс яечка.
Сеў і вывеў
Ён шчаня.
Качар кажа:
— Качаня.
— Качаня, —
Ўздыхнула качка, —
Толькі вые, як сабачка.

## Пішуць школьнікі

## АБ КАНІКУЛАХ З ДУБІЦКАЙ ШКОЛЫ

**ДАРАГАЯ „ЗОРКА"**

*Настаўніца беларускай мовы ў Пачатковай школе ў Дубічах Царкоўных выбрала тэму: „Як кожны з нас правядзе свае канікулы?"*

Я рашыла напісаць Табе, „Зорка", пісьмо і апісаць, як я правяду канікулы.

Я правяду канікулы дома. Буду памагаць маме і тату пры ўборцы сена і збожжа. Маім заданнем будзе дбаць пра чысціню агарода і парадак у хаце. Буду памагаць маме мыць пасуду, замятаць падлогу і рабіць пакупку ў магазіне. Кожную суботу з сястрой Аняй буду хадзіць па грыбы і маліны. У халодныя і пахмурныя дні я буду чытаць кнігі і аглядаць фільмы для дзяцей. У цёплыя дні будзем купацца з сяброўкамі ў вадзе і гуляць у мячык. Над вадой будзе весела і хутка будзе праходзіць час.

Калі закончыцца праца ў полі, я з мамай паедзем у горад да дзядзькі. Пабуду там некалькі дзён, куплю сабе пенал, новую сумку і сшыткі.

Я думаю, што канікулы пройдуць хутка і будуць у мяне толькі самыя прыгожыя ўражанні.

Шлю Табе, „Зорка", сардэчныя прывітанні і жадаю, каб Ты весела правяла два летнія месяцы.

Ірэна Дмітрук, вуч. IV кл. з Дубіч Царкоўных, жыве ў Тафілаўцах.

**ДАРАГАЯ „ЗОРКА"**

Піша да Цябе вучаніца 4 класа са школы ў Дубічах Царкоўных. Хачу Табе, „Зорка", апісаць, як я правяду летнія канікулы.

Хачу Табе, „Зорка", сказаць, што я нідзе не паеду, можа толькі ў жніўні да бабулі. У ліпені буду памагаць бацькам у полі і буду рыхтавацца да свята, калі будзе час. У канцы жніўня буду рыхтавацца ў школу. Так правяду летнія канікулы.

Зычу Табе, „Зорка", многа шчасця і хачу, каб і Ты мела вясёлыя канікулы.

Вуч. 4 кл. са школы ў Дубічах Царк.
Крыстына Карнілюк

**ДАРАГАЯ „ЗОРКА"**

Пішу да Цябе першы раз. Называюся Аня. Хачу Табе расказаць, як я правяду летнія канікулы.

У час канікул я паеду ў Гайнаўку. Там буду хадзіць на маражанае і на басейн. Потым з Асяй паедзем над ваду ў Дубічах Царкоўных. Будзем купацца.

Апошні месяц буду дома памагаць у гаспадарцы.

Мне выдаецца, што канікулы праводзяць добра і весела.

Віншую сваю „Зорку" і зычу,

(Працяг на стар. 10)

З суседскага агародчыка

### ПУЛУ-ПУГІ І ЯГО СУСЕД

Сусед Пулу-Пугі часта пазычаў у яго грошы.

— Пугі, ці не пазычыш ты мне пяць туманаў?

— А чаму б і не, — адказаў Пулу-Пугі, — грошы ляжаць пад падушкай, ідзі і вазьмі.

Сусед так і зрабіў.

— Пугі, я прынёс табе грошы, — казаў ён праз некалькі дзён.

— Нясі і пакладзі іх туды, адкуль узяў.

Сусед пайшоў і паклаў грошы пад падушку.

І так паўтаралася не раз.

Але аднойчы сусед падумаў: „Паколькі Пулу-Пугі не правярае, ці паклаў я грошы пад падушку, дык мне няма чаго іх вяртаць“, — і з грашыма ў кішэні пайшоў назад.

Прайшоў час. Сусед больш не прасіў грошай у Пулу-Пугі. Але здарылася так, што суседу зноў тэрмінова спатрэбіліся грошы. Што рабіць? Ён быў вымушаны звярнуцца да Пулу-Пугі.

— Пугі, ці не пазычыш ты мне пяць туманаў?

— А чаму б і не. Грошы ляжаць на сваім месцы, ідзі і вазьмі.

Сусед пайшоў, але грошай пад падушкай не было. Ён вярнуўся да Пулу-Пугі і сказаў, што грошай няма.

— Правільна, для таго каб яны былі, табе трэба было пакласці іх туды, — адказаў Пулу-Пугі.

*(З армянскага)*



Хутка бяжыць час літніх водпускаў.

# НІЎКА



### МІКОЛКА

На ўроку фізікі настаўніца пытае Міколку:

— Калі маці падае табе есці, што відаць над міскаю гарачага баршчу?

— Мая лыжка, — адказаў той.

### КЛАПАТЛІВАЯ

— Я чуў, што ў час абеду жонка чытае табе кнігі. Гэта праўда?

— Бачыш, яна чытае мне кулінарную кнігу, каб я дакладна ведаў, што яна нарыхтавала на абед.

### КАСТУСЬ

— Я ж сказала, што ты можаш выпіць не больш двух кухляў піва і вярнуцца дадому не пазней дзесяці гадзін.

— Няўжо ты так сказала?! Значыць я зноў усё пераблытаў...

### ЗРАЗУМЕЎ

На панадворку вые сабака.

— Што гэта з сабакай?

— А, гэта нашы суседзі едуць у водпуск.

— Але ж яны бяруць з сабою сабаку, чаго ж ён вые?

— Ён проста зразумеў, што за руль сядае гаспадыня!

### ЛАГІЧНА

Сустрэліся два былыя аднакласнікі, пачалі ўспамінаць сваіх таварышаў:

— Паслухай, а як цяпер Сцяпан?

— Стаў літаратурным крытыкам.

— Та-ак... Ён яшчэ ў школе не любіў літаратуру.



— Ратуйце! Усё роўна ніхто не паверыць.



Да той пары сыпаў маланкі, пакуль не загрымеў.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Пакупнік звяртаецца да прадаўшчыцы:

— Скажыце, дзе сядзіць ваш дырэктар?

Тут падыйшоў Кіндзюліс і спытаў:

— Адкуль вы ведаеце, што ён ужо сядзіць?

*

Лорд сварыцца на сваёго слугу:

— Дзе цябе носіць? Я ўжо пяць мінут табе званю!..

— Прабачце, сэр, не пачуў.

— Трэба было прыйсці і сказаць мне аб гэтым!

*

Пяцёра п'яных мужчын стаяць пад акном пані Б'ерке і стукаюць у шыбу.

— Што вам трэба? — адклікаецца нарэшце гаспадыня.

— С-скажыце, гэта вы пані Б'ерке? — з цяжкасцю варочаючы языком, пытаецца адзін з іх.

— Ну, вядома!

— Т-тады, скажыце нам, хто з нас пан Б'ерке, каб астатнія маглі ісці дамоў.

### КУРТКА

Сёння дыскатэка ў Вовы.
Я прыйшла у куртцы новай.
Заграпічнай, адмысловай.
Уздоўж і ўпоперак маланкі,
Усюды кнопкі, ўсюды планкі.
Гузікі — ні даць, ні ўзяць! —
Нібы зоркі зіхацяць.
Я сяджу у цэнтры самым
У куртцы, што прывезла мама.
Хоць гарачыня даймае,
Але курткі не здымаю.
Не смяюся, не танцую,
Сваю куртку дэманструю...

**Таісія Казлоўская**

З „Весніка Задрыпоніі“

### ПЕРПЕТУУМ-МОБІЛЕ

Прафесар Пустадуевіч працаваў усё жыццё над тэмай вечнага рухавіка і даказаў, што яго праца з'яўляецца вечным рухавіком для зарплаты.

### З БЮРАКРАТАЛОГІІ

Калі пытанне пастаўлена правільна, яно будзе доўга стаяць.










## Курёзы

### ДАВЕРЛІВЫ ВУЧАНЬ

Махарышы Махеш Іогі, вядомы адзін час у 60-х гадах як духоўны настаўнік групы „Бітлз“, прыгаворан амерыканскім судом да штрафу ў 130 тысяч долараў. Згодна з прыгаворам, такую суму ён павінен заплаціць чалавеку, якому паабяцаў, натуральна, за адпаведную аплату, што навучыць яго „лётаць у паветры“. Але той і не змог адарваць сам сябе ад зямлі, нягледзячы на тое, што на працягу 11 гадоў выконваў усе парады, спасцігаючы тайны так званай „трансцэндэнтальнай медытацыі“.

### ПРЫНАДА ДЛЯ БРАКАНЬЕРА

На адной з дарог у акрузе Мейкан, штат Тэнесі, ЗША, нярэдка грымяць стрэлы. Аўтамабілісты, што маюць зброю, не супраць забіць аленя, якога яны бачаць непадалёк ад дарогі, не ведаючы, што страляюць па... чучалу жывёліны, устаноўленаму мясцовымі ўладамі з мэтай выяўлення браканьераў. Як паведамляе агенцтва Юнайтэд Прэс Інтэрнэшнл, на прынаду папаліся і прыгавораны судом да штрафу ўжо 40 горнапаляўнічых.



**Каб працаваць без дурняў, часам дастаткова правесці скарачэнне штатаў.**